# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 2 (776) ГОД XVІ БЕЛАСТОК 10 СТУДЗЕНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.




Пастановы Рады Міністраў ад студзеня 1968 года абавязваюць улады, каб у кожнай грамадскай радзе быў аграном і заатэхнік.

У Бельскім павеце працуе зараз 40 чалавек у сельскагаспадарчай службе (аграномы, заатэхнікі і іх памочнікі). Такім чынам, у кожнай грамадскай радзе працуе зараз аграном, амаль у кожнай — заатэхнік. Маюць яны, фармальна беручы, адпаведную тэарэтычную падрыхтоўку — маюць сярэднюю агранамічную і заатэхнічную адукацыю.

Справа аднак у тым, што як дагэтуль, кадры сельскагаспадарчай службы надзвычай нестабілізаваныя. Аграномы працуюць наогул нядоўга па сваёй прафесіі, звальняюцца, ды адыходзяць на іншую работу. Так, напрыклад, у 1969 годзе ў Бельскім павеце кінула працу 13 аграномаў і заатэхнікаў, а на іх месца прынята на работу 16 новых людзей. У 1970 годзе з сельскагаспадарчай службы адыйшло 7 асоб. Зразумела, што ад людзей, якія трактуюць сваю працу часова, нельга спадзявацца добрых вынікаў. Пры тым значная большасць грамадскіх аграномаў і заатэхнікаў — гэта людзі зусім яшчэ маладыя, без належнага вопыту ў гэтай нялёгкай і адказнай прафесіі.

Найгоршае аднак тое, што аграномы і заатэхнікі ў грамадах найчасцей неадпаведна арганізуюць сваю працу. Усім вядома, што працай іх павінна быць дапамога гаспадарам, неабходны інструктаж і парада, — асабліва гаспадарам у вёсках, далёкіх ад грамадскай рады, куды менш даходзіць сельскагаспадарчая асвета. Аграномы ж найчасцей займаюцца рознага роду бюракратычна-адміністрацыйнымі работамі. Работу такую часта, зусім няслушна, накідаюць аграномам старшыні грамадскіх рад нарадовых. Зразумела, што сядзець у грамадскай радзе і перакладаць паперкі значна лягчэй, чымсьці хадзіць па вёсках і цікавіцца плёнамі. Таму аграномы часта згаджаюцца на такую няправільную арганізацыю іх працы.

Не найлепш, праўду кажучы, і з самымі выездамі аграномаў у так званы «тэрэн». Выязджаюць яны найчасцей не туды, куды трэба, гэта значыць — не ў вёскі, найслабей гаспадарачыя, а наадварот — едуць больш за ўсё туды, дзе гаспадары гаспадараць добра. Пры тым аграномы найчасцей бываюць у вёсках, якія знаходзяцца непадалёк ад сядзібы грамадскай рады нарадовай. Ды нават у адной і той жа вёсцы аграном больш ахвотна ідзе да добрага гаспадара, які чытае сельскагаспадарчую літаратуру, выпісвае часопісы і ў якога ўсё і так ідзе добра. Зразумела, што гаспадар такі ахвотна пагутарыць з аграномам і аграному гутарка такая — прыемнасць. Справа аднак у тым, што ў вёсцы ёсць шэраг сялян, якія значна больш патрабуюць дапамогі і парады аграномa, а да якіх аграном зусім не даходзіць. У сувязі з тым і ўздзеянне аграномa на сельскагаспадарчую прадукцыю вёскі аказваецца наогул невялікім.

Сельскагаспадарчыя веды, як і ўсякія іншыя веды ў сённяшнім свеце, не стаяць на месцы. Тое, што было актуальным пяць ці дзесяць гадоў таму назад, сёння можа аказацца ўстарэлым. Веды агранома таксама. У сувязі

Працяг на стар. 4



*У беларускім клубе «Руху» (Беласток, Варшаўская 11) ганаровае месца займае «Беларускі каляндар» на 1971 год. Прыпамінаем, што набыць яго можна таксама ва ўсіх аддзелах БГКТ. Каштуе 10 зл.*

*Фота Цаф — Сянько*

## XV ГОД

## ВЯЛІКІ РАБОЧЫ ГУРТОК

Каля 600 членаў. У асноўным рабочыя гайнаўскіх прамысловых прадпрыемстваў. Плюс інтэлігенцыя — інжынеры, настаўнікі, работнікі ўстаноў.

Рабочы характар гайнаўскага гуртка Беларускага таварыства кшталтаваўся свядома. Яго старшыня, 15-цігадовы дзеяч Беларускага таварыства Кастусь Грыц — сам рабочы. Кіруе гуртком ад 1966 года. Гурток у асноўным за гэты час і вырас.

Кастусь Грыц кажа: «Я даў сабе слова, што сам пастараюся, каб уступіла ў наш гурток 180 новых членаў. Прыйшлі яны з нашай фабрыкі і з іншых. Гаварыў з людзьмі, высняў ім ролю Беларускага таварыства ў Польшчы, казаў, што праца наша мае характар культурны, што моладзь у беларускім гуртку будзе добра выхоўвацца. Гаварыў я і гавару —мы таварыства культурнае, хочам спяваць, чытаць «Ніву», беларускія кніжкі, збірацца на вечарыны, рыхтаваць дзецям ёлку».

— Якія вашы члены? Актыўныя? Мужчыны ці жанчыны?

— Складчыны аплачваюцца цяпер добра і гэта добра сведчыць пра нашых членаў. Ёсць многа актыўных людзей, некалькі прозвішчаў назаву: Іван Бура з «Хімічнай», «Вінцук Боўтрык і Мікалай Павіліч з «Гаймаклесу», Аляксандр Крутэль з малачарні, які працуе разам з жонкай. А на пытанне «мужчыны ці жанчыны», скажу, што мужчын значна больш.

— Як у горадзе ацэньваецца ваша праца?

— Вельмі добра. Улады дапамагаюць нам, як могуць.

Яшчэ не здарылася, каб нас не выслухалі або непрыхільна аднесліся да нас. Людзі цешацца з нашых культурных мерапрыемстваў. На нашых вечарынах заўсёды людна. Усе задаволены, як выступае наш хор. Нам часам зайздросцяць, што ўмеем культурна гуляць. А каб вы ўбачылі, як цешацца людзі на вёсках, калі прыязджае да іх паспяваць наш хор. Як нам дзякуюць! Калі ў Гайнаўцы першы раз выступіў хор, то такая была радасць сярод людзей, усе цешыліся, што можна так працаваць. Наш хор цяпер абудзіўся ад сну і зробім усё, каб хор у далейшым працаваў сістэматычна.

— Ад чаго залежыць аўтарытэт гуртка ў асяроддзі?

— Ад працы — добрай і карыснай. У нас таварыства зрабіла многа і робіць далей. Такая работа тут была патрэбнай. Яна мабілізуе людзей, дадае духу і гарадскім і вясковым. Людзі рады нашай грамадска-культурнай працы і мы яе будзем развіваць.



— Фабрыка, на якой працуеце, разбудоўваецца. Як гэта ўспрымаеце?

— Кожнаму з нас, кожнаму рабочаму на сэрцы весялей, што прадпрыемства разбудоўваецца. Цешымся, што вось пачала працаваць фабрыка мэблі на нашым прадпрыемстве.

— Даўно вы рабочы і адкуль прыйшлі?

— На маім прадпрыемстве тут працую ад 1945 года. А родам са Старога Ляўкова.

— Як даўно вы звязаны з грамадскай працай у Беларускім таварыстве?

— У мяне членскі білет № 4. Быў я членам арганізацый-

Працяг на стар. 4

## БГКТ ХРОНІКА

● Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ на сваім пасяджэнні 23-га снежня выслухаў інфармацыю кіраўніка культурна-асветнага аддзела ГП Сяргея Лукашука аб рэалізацыі галоўных напрамкаў дзейнасці БГКТ у 1970 годзе. Кіраўнік арганізацыйнага аддзела ГП Ліда Антанюк прадставіла праект галоўных напрамкаў працы на 1971 год. Члены прэзідыума ГП звярнулі ўвагу на дасягненні і недахопы ў працы мінулага года і выказаліся адносна заданняў БГКТ і «Нівы». Далей сакратар ГП Янка Зенюк прадставіў спісак дзеячоў нашага таварыства з усіх аддзелаў, якіх трэба было б узнагародзіць з нагоды юбілею БГКТ.

● 23-га снежня адбылося пасяджэнне выдавецкай камісіі Галоўнага праўлення. На ім была зроблена ацэнка вышаўшага нядаўна Беларускага календара на 1971 год, а таксама шырока абмяркоўвалася тэматыка календара на 1972 год. У будучым календары многа месца адвядзецца матэрыялам са святкавання 15-ай гадавіны Беларускага таварыства.

● Конкурс «Беларуская песня — 71», аб'яўлены Галоўным праўленнем Беларускага таварыства, выклікаў вялікае зацікаўленне. У бельскім аддзеле БГКТ рыхтуецца да яго шмат асоб. Між іншым, прыступяць да конкурсу Еўдакія Навакоўская і Анна Кубай з Бельска Падляшскага, а таксама працаўнікі грамадскай рады нарадовай у Рыгароўцах — Ніна Філіманюк і Валянціна Паўлючук.

● Галоўнае праўленне БГКТ рыхтуецца да святкавання 15-ай гадавіны Беларускага таварыства. Апрацоўваецца ўжо даклад на ўрачыстае пленарнае пасяджэнне, падрыхтоўваецца фотавыстаўка, рыхтуецца мастацкая частка. Харавы калектыў з Гарадка рыхтуе спецыяльную праграму, з якою выступіць на гэтай урачыстасці. Актыў Галоўнага праўлення выступіць у многіх вёсках і праінфармуе прысутных на сходах аб ролі і дасягненнях БГКТ. Украінскае і Літоўскае таварыства звярнуліся да ГП, каб нашы прадстаўнікі выступілі перад іх актывам з некалькімі дакладамі і расказалі аб дзейнасці БГКТ у беларускім асяроддзі.

(мх)




## ЖЫВЫЯ МІЦКЕВІЧАЎСКІЯ СЛЯДЫ

Ужо звыш 115 год няма ў жывых аўтара «Дзядаў» і «Пана Тадэвуша», ужо звыш 145 год прайшло ад таго часу, калі вымушаны быў ён пакінуць свае родныя старонкі, а ўсё яшчэ жыве аднак у народзе памяць пра нашага найслаўнейшага песняра, усё яшчэ ён сам, як жывы, астаецца людзям блізкі, дарагі і паважаны. Там, дзе пабываў ён сам, дзе пасяліў сваіх герояў, дзе жылі яго сябры, цяпер праўда пераплятаецца з легендай, а легенда становіцца праўдай.

Такое атрымліваеш уражанне, калі прачытаеш навейшую кніжку*) вядомай польскай журналісткі і пісьменніцы Манікі Варнэнскай.

«Самалётам і параходам, — піша яна, — аўтамашынай і аўтобусам, чыгункай і на ўласных нагах на працягу некалькіх год вандравала я па слядах Міцкевіча, вандравала праз «край дзяцінства» паэта, праз «край яго маладосці».

Гэты край — Літва і Беларусь, Украіна і Расія. Зямля, на якой не толькі трывае памяць аб Міцкевічу, але ўсё яшчэ жыве Міцкевічаўская традыцыя і звязаная з ім легенда».

Гэта не першае падарожжа па слядах паэта. Перад Манікай Варнэнскай родныя мясціны Міцкевіча наведалі іншыя даследчыкі і шматлікія прыхільнікі яго творчасці. Ды, па праўдзе, яна не дадае нічога новага да рэчаў даўно ўжо ўстаноўленых і дакладна апісаных — хаця б у манументальнай даследчай працы цэлага калектыву славутых вучоных — «міцкевічазнаўцаў», у шматтомным (яшчэ не закончаным) *«Календары жыцця і творчасці»* Адама Міцкевіча.

Аднак кніжка Манікі Варнэнскай поўнасцю арыгінальная, патрэбная і па-свойму адкрыўчая. Усе даследчыкі імкнуліся і імкнуцца ўстанавіць так званую аб'ектыўную праўду пра жыццё і творчасць геніяльнага паэта. Маніка Варнэнская не з'яўляецца даследчыкам. Яна журналіст. Яна паказвае, як гэтая аб'ектыўная праўда адлюстроўваецца ў вачах цяперашніх людзей, якія жывуць там, дзе Ён жыў, дзе Ён хаця толькі пабываў, куды хаця б у думках пераносіўся. І ў тым заключаецца асноўны сэнс і вартасць гэтай кніжкі-рэпартажу.

«Восенню 1920 года, — піша яна, — у дзверы даўнейшай Міцкевічаўскай сядзібы застукаў новы госць: рэвалюцыя...»

З гэтага часу ў цяперашнім Міцкевічаўскім музеі перахоўваецца важны дакумент, які сцвярджае:

«а) у горадзе Навагрудку некалі жыў вядомы цэламу свету вялікі польскі пісьменнік, паэт Адам Міцкевіч. Астаўся пасля яго жылы дом, бібліятэка і г.д.(...) У сувязі з гэтым загадваецца:

(...) § 3. Аддзелу народнай асветы адразу ж прыступіць да арганізацыі ў гэтым доме музея або Народнай бібліятэкі імя Адама Міцкевіча...»

Дакумент быў выстаўлены 19 верасня 1920 года. У гэты бурлівы час, калі шмат важнейшыя падзеі выпаўнялі людзям час, калі голад і смерць шчырылі з усіх бакоў свае злавесныя зубы, маладая рэвалюцыйная ўлада першая падумала аб трывальным увекавечанні памяці пра польскага паэта. Быў гэта першы дэкрэт аб устанаўленні першага музея Міцкевічу на яго роднай зямлі, якую ён сапраўды расславіў на ўвесь свет, пра якую ніколі не забываў, за якой заўсёды сумаваў. Нават калі ў 1833 годзе на «парыжскім бруку» пахіляўся над першымі радкамі «Пана Тадэвуша», думаў пра Наднёманскі край і прасіў у святой Вострабрамскай дзевы:

«Тым часам перанось мой дух
засмучаны
У лес зялёны, на сенажаці, на
паляны,
Што над блакітным Нёманам
парассціланы.»

Сярод даследчыкаў няма згоды на тое, дзе нарадзіўся Адам Міцкевіч: у Завоссі ці ў Навагрудку. Аднак на месцы сямейнага дома Міцкевічаў у Завоссі цяпер стаіць просты помнік, які на беларускай мове абвяшчае: *«Тут, у Завоссі, 24 снежня 1798 года нарадзіўся вялікі паэт Адам Міцкевіч»*. І хай у наваколлі цяперашняга Завосся ніхто не асмеліцца пярэчыць, што гэта няпраўда. Мясцовыя людзі з воклікам: «Міцкевіч наш!» — да вачэй бы скочылі, так яны ганарацца сваім земляком!

Туганавічы. Тут жыла Марыля Верашчака, туды вырывалася закаханае сэрца маладога Адама. «Іван Сянкевіч, — піша М. Варнэнская, — настаўнік, які жыве непадалёк. Знае кожную туганавіцкую сцежку і кожны камень».

Ды не толькі. Ён ад першага погляду ведае, чаго шукае госць з Польшчы і трапна, быццам завучаную лекцыю, расказвае пра дзеі суадносін Марылі і Адама, пра творы, у якіх адлюстраваны гэтыя суадносіны, пра Сапліцова — гэтае з «Пана Тадэвуша», якое паэт недзе тут змясціў.

А вось яшчэ адзін абразок з гэтай кніжкі. Поўдзень. Спёка. У саўгасным бюро Солечнікаў Вялікіх пуста, глуха. Людзі ў полі. На хвіліну за нечым прыбег саўгасны механік. Варнэнская без усялякай надзеі менавіта яго пытае пра Міцкевічаўскія сляды. А механік зусім не здзіўляецца гэтаму пытанню.

— Гавораць некаторыя, — адказвае ён, — што Міцкевіч любіў сядзець вось пад гэтымі старымі дрэвамі, якія растуць ля сажалкі. Але раю вам, накіруйцеся ў Больценнікі. Там жа лясок Марылі! І камень, на якім яна ўласнай рукой высекла крыж!

І так далей, і так далей. На кожным кроку аўтар кніжкі сустракала людзей — розных па адукацыі і па прафесіі, якія ў сэрцы, у думках і ў шматлікіх трывалых помніках захавалі памяць аб нашым песняру.

Ды яшчэ кніжка Манікі Варнэнскай з'яўляецца таксама своеасаблівым гімнам у гонар дружбы між суседнімі народамі, менавіта такой дружбы, пра якую марыў Адам Міцкевіч.

*Віктар Рудчык*

*) Monika Warneńska: Kraj lat młodzieńczych. Śladami Mickiewicza. Wydawnictwo Lubelskie, Lublin 1970, stron 266, cena 16 zł.

## ПАСЛУГОВА-ВЫТВОРЧАЯ СПУЛДЗЕЛЬНЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ГУРТКОЎ У НАРВЕ

Паслугова-вытворчая спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў (СУВ) у Нарве (Гайнаўскі пав.) заснавалася ў 1966 годзе з вядомай ужо з самой назвы мэтай. СУВ вырабляе будаўляныя матэрыялы і будуе з іх аб'екты для сельскагаспадарчых гурткоў, міжгуртковых машынных баз і для паасобных сялян. Прадукцыя спулдзельні — гэта перш за ўсё шлака-бетонныя пустакі, трылінка, бетонныя стаўбы да агарожаў, прапускныя і калодзежныя трубы і г.д. За тры кварталы 1970 года СУВ выпрадукавала 27000 штук пустакоў, 20 000 штук трылінкі і 600 штук стаўбоў.

У будаўніцтве СУВ робіць свае паслугі не толькі Гайнаўскаму павету, але і Бельскаму і Беластоцкаму. У Гайнаўскім павеце спулдзельня будуе паветкі на сельскагаспадарчыя машыны для МБМ у Арэшкаве, гаспадарчы будынак, варштаты і паветкі для МБМ у Саках, магазін на штучныя ўгнаенні для раённай прадукцыйнай спулдзельні ў Крыўцы, паветкі на сельскагаспадарчыя машыны для МБМ-аў у Чыжах і Клейніках, а таксама для сельскагаспадарчага гуртка ў Трасцянцы. Апрача такіх аб'ектаў, СУВ пабудавала адміністрацыйны будынак для сядзібы ГРН у Трасцянцы і будуе такі ж будынак у Арэшкаве. На месцы сваёй базы спулдзельня будуе гаспадарчыя будынкі, кузні, гаражы, склады апалу і г.д. У Беластоцкім павеце спулдзельня будавала паветкі і гаражы ў Багданках і ў Заблудове, а ў Бельскім — у Пасынках. У СУВ-е працуе найбольш сталяроў, муляроў, тынкоўшчыкаў, шафёраў і невыкваліфікаваных рабочых. Усіх каля 40 асоб. Дзейнасцю спулдзельні кіруюць: прэзас Віталіс Пякарскі, тэхнічны кіраўнік Ян Тышка і будаўляны кіраўнік Міхась Грыгарук.

(яц)

У БЕЛАРУСКІМ КЛУБЕ



*Сустрэча з паэтам на Варшаўскай 11.* *Фота Цаф — Сянько*

# АБ ПРЫГАЖОСЦІ ,КАХАННІ І МОЛАДЗІ

Пад такім загалоўкам быў праведзены ў снежні 1970 г. дыскусійны вечар у Беларускім клубе ў Беластоку.

На тварах маладых людзей, якія перапоўнілі клуб, адразу ж паявілася зацікаўленне. Загледзеліся на лектара доктара Аляксандра Баршчэўскага, як на нейкае ўвасабленне. Несумненна, характар тэмы прышоўся ім па густу. Зрэшты, і сам доктар Баршчэўскі, хаця на пачатку сказаў, што не ўпэўнены, ці справіцца з тэмай, правёў лекцыю вельмі добра. Гаварыў жыва, цікава, вобразна — зразумела і даступна кожнаму інтэлектуальнаму ўзроўню слухачоў. Зрабіў змястоўны аналіз літаратуры і мастацтва, пачынаючы ад старарымскіх і стараегіпецкіх, праз усе перыяды іх развіцця — аж па сучасны момант, паказваючы іх прыгажосць і багацце. Гаварыў аб уплыве літаратуры і мастацтва на кшталтаванне эстэтычных густаў чалавека, аб адлюстраванні жывой прыроды ў літаратуры і мастацтве і аб уздзеянні гэтых сродкаў на чалавека.

Далей гаварыў аб жанчыне. Так, аб жанчыне ў паэзіі і музыцы; аб культе жаночай постаці ў творчасці пісьменнікаў-сентыменталістаў і аб тым, як уздзейнічала жаночая постаць на стваральнікаў мастацтва. Шырока падкрэсліў ролю жанчыны ў сучаснай рускай, беларускай, польскай і іншых літаратурах сацыялістычных краін, у якіх жанчына паявілася як неадлучная частка грамадства будуючага, працоўнага і ствараючага сучаснае жыццё.

Зрабіў гэта не выпадкова, а з тым намерам, каб пасля зручна перайсці да адносін паміж маладымі хлопцамі і дзяўчатамі сёння. Падказаў, як часта нетактоўна і некультурна адносяцца хлопцы да дзяўчын. Пераконваў, што пашана ў суадносінах паміж маладым сябрам і сяброўкай павінны быць неадлучнай з'явай і што толькі культурныя суадносіны ў штодзённым жыцці спрыяюць узаемазразуменню і каханню, якое павінна быць чыстай супольнасцю душ і высакароднай унутранай патрэбай чалавека.

Далей лектар гаварыў аб ролі, якую яны — маладыя людзі — павінны спаўняць у грамадстве і праявіў перакананне, што паспяхова справяцца са сваім жыццёвым заданнем.

Дыскусія была кароткая. Прысутныя жадалі больш слухаць, чым гаварыць. Доктар Баршчэўскі даваў пераканаўчыя адказы, трактуючы з павагай і пашанай моладзь і яе праблемы. (зс)




## ВЕРУ Ў ТВАЮ ПЕРАМОГУ, ГАЛЯ

«Форум» атрымаў многа пісем. Пішуць не толькі цяперашнія школьнікі, але і былыя вучні, якія з перспектывы часу могуць глянуць на спосабы авалодання ведамі ў школе. Прачытайце, што піша Аня Ігнатовіч з Бельска:

І я хадзіла ў школу і ведаю, як цяжка, калі чалавек вучыцца, робіць што можа, а не мае поспехаў. Але нават гэта яшчэ не абазначае, што ў такім выпадку трэба адрачыся ўсяго.

Мілая Галя! З твайго пісьма я бачу, што ты вельмі далікатная, вельмі чуллівая і амбітная. Як сказаў адзін з пісьменнікаў, «далікатная кветка на тонкай сцяблінцы». І гэта, па-мойму, для цябе адна з галоўных перашкод. Тваё перажыванні проста паралізуюць здольнасць да далейшай дзейнасці. І гэта ты павінна перамагчы.

Па-мойму, ты павінна прыняць нейкі метад, як вучыцца. Калі я вучылася, у мяне не было ніякага метаду. Спачатку ўсё было вельмі добра. Я ўсё ўмела, разумела, мяне хвалілі, ставілі добрыя ацэнкі (хаця я вучылася ў вельмі цяжкіх умовах). Але потым, неяк непрыкметна, станавілася ўсё горш. У дзесятым класе ў мяне не было ніводнай чацвёркі. Матуру здала апошнімі сіламі з мізэрнымі вынікамі.

Зараз мне 25 год, і я гляджу неяк з вышыні часу на тое, што было ў гады маёй навукі. Прыходжу да вываду, што я замнога займалася гэтымі перажываннямі, а замала думала пра тое, чаму вучаць у школе. А вучылі сапраўды цікавым рэчам. Я цяпер яшчэ ахвотна вяртаюся да падручнікаў геаграфіі, хіміі ці гісторыі. Па-мойму, вывучаючы што-небудзь, трэба многа думаць, але нават думаючы можна прайграць час, адстаць ад другіх.

Далей. Клас — гэта калектыў, і проста не разумею, як твае класныя сябры могуць глядзець спакойна на тое, што на іх вачах ёсць такі няшчаслівы чалавек. Але яны можа нічога не ведаюць, можа ты вельмі скрытая і нічога нікому не гаворыш?

Аднак веру, што ўсё ты зможаш перамагчы. Першай перамогай было тое, што ты выказала ўсё шчыра перад «Нівай». Другая — гэта сяброўскія пісьмы і парады, якія ты атрымліваеш. Гэта ўсё сведчыць аб тым, што людзі наогул добрыя і ахвотна дапамагаюць тым, хто па выбоінах жыцця не здолее сам перайсці. А жыццё вельмі прыгожае, хаця і выбоістае.

*Аня Ігнатовіч*

54.

— Выйсця няма! У пастцы! — прашаптаў ён нарэшце.

— Відаць, загінуць прыйдзецца тут, — прастагнаў Віктар.

Цямнела. Вечар быў цёплы, ціхі. Пяшчотныя гукі прыроды цешылі вуха. Але нашыя хлопцы нічога гэтага не адчувалі, не заўважалі. Перш за ўсё ім вельмі хацелася адпачыць. Яны ж страцілі апошнія сілы ў гэтым змаганні за вызваленне. Яны хацелі б праляжаць тут усю ноч, каб назаўтра зноў паспрабаваць вырвацца. Але...

— Слухай, Віктар! — прамовіў Мірон нейкім глухім голасам. — Мы павінны зараз жа вярнуцца назад, бо іначай застанемся без агню.

Віктар прыпадняўся, правёў рукою па ілбе, страсянуўся і ўскочыў на ногі.

— Але, — сказаў ён. — Трэба змагацца.

І яны моўчкі пайшлі назад у балота, уначы...

Не будзем апісваць гэтую жудасную дарогу. Скажам толькі, што вярнуліся яны назад, нібы пастарэўшы на некалькі гадоў. Кожны з іх бачыў смерць, загразаў у багавінні па шыю. Правялі ў балоце гадзіны чатыры і выратаваліся толькі таму, што адзін аднаму памагалі.

Дацягнуліся да стаянкі бадай што непрытомнымі. Ледзь раздзьмухалі апошнія вугольчыкі, распалілі вялікі агонь і паснулі каля яго. Не залазілі ў сваю будку.

Гэта была іхняя дзесятая ноч на востраве...

А ў сне яны бачылі кожны па-свойму свае хаты, сям'ю. Ім было так добра, утульна, цёпла, толькі з акна ці дзвярэй дзьмуў халодны вецер.

XIII

**Прымусовае чаканне. — На пашы. — Жаба-птушка. — Хатні настрой. — Чалавек.**

Спачатку іх грэў і сушыў агонь, а потым — сонца. У сне яны паварочваліся да цяпла то адным, то другім бокам, пакуль не высахлі з усёй сваёй гразёю. Спалі вельмі доўга, аднаўляючы сілы.

Першым прачнуўся Мірон і зараз жа кінуўся да вогнішча. Калі агонь зноў запалаў, Мірон сеў на зямлю, абхапіў рукамі свае худыя калені і задумаўся...

Праз некаторы час усхапіўся Віктар, паглядзеў на Мірона з такім выглядам, нібы зусім не чакаў яго тут сустрэць, і пачаў чухацца так, што пыл пайшоў ад яго, нібы дым ад вогнішча.

— А сёння я быў дома! — сказаў ён нарэшце.

— І я таксама, — задуменна адказаў Мірон. — Сёння пачаліся ў нас заняткі. Сёння нашы бацькі зусім ужо ўстрывожыліся. Сёння пачнуць нас усюды шукаць, толькі не тут...

56.

— Ды яна жыве на дрэве, як птушка, — адказаў Віктар. — Наогул такіх жаб шмат на свеце. Ёсць у паўднёвай і сярэдняй Еўропе. Вось, як бачыш, сустрэлася і ў нас. Яна таксама жывіцца казюлькамі, як і птушка. А ікру адкладае на зямлі, у вадзе.

— Дык вось чаму людзі кажуць, што часам жабы нараджаюцца ў арэхах! А я лічыў гэта байкай, — сказаў Мірон. — Наогул, колькі цікавых рэчаў ёсць у нас у прыродзе, пра якія мы нічога не ведаем.

— Калі прыцісне бяда, можна будзе і жаб пакаштаваць, не гэтых, а тых, што на зямлі. Трэба думаць, што рэч няшкодная.

— Калі трэба будзе, пакаштуем і жаб, — з смешнай пакорлівасцю ўздыхнуў Мірон.

Нічога больш спажыўнага на гэты раз не здабылі.

— Добра, што хоць крыху папасвіліся, — казалі хлопцы, калі ішлі дадому.

Сонца ўжо заходзіла, калі яны вярнуліся на сваю стаянку. Паправілі вогнішча. Агонь весела затрашчаў. Пасля ўчарашніх турбот іх «дом» здаваўся такім прытульным, родным, нібы яны тут і нарадзіліся.

— Няма чаго дурыцца, заўтра абавязкова пайду памыюся, — нездаволена бурчаў Мірон. — А ты як сабе хочаш.

— Заўтра і я пайду, — са смехам адказаў Віктар. — Але вось што: адной чарапахі для чаю мала, трэба яшчэ пасудзіну зрабіць з бяросты.

— Рэч добрая, — згадзіўся Мірон.

Віктар адышоўся да бярозы.

І раптам ён закрычаў так, што рэха пакацілася па ўсім лесе:

— Мірон! Што гэта такое?!

Мірон ускочыў, нібы яго хто тыцнуў пад бок. Падбег да Віктара і ўбачыў, што той падымае з зямлі недакурак.

— Што гэта такое?! — паўтарыў Віктар.

— Недакурак, — спакойна адказаў Мірон.

— Адкуль?! — зароў Віктар.

Тут ужо і Мірон сцяміў, што справа сур'ёзная.

— Пакажы, — прамовіў ён дрыжачым голасам.

Недакурак быў сухі, свежы...

Хлопцы назіралі адзін на аднаго, як ачмурэлыя.

— Можа, ты? — шэптам запытаўся Віктар.

— Ідзі ты к ліху! — раззлаваўся Мірон. — Хутчэй ты сам.

— І не я. Значыцца...

— ...тут нядаўна быў чалавек, — скончыў Мірон. — І быў ён не пазней учарашняга дня, бо ў перадапошнюю ноч быў дождж і недакурак пажаўцеў бы.

— А я думаю, што сёння, — упэўнена адказаў Віктар, — бо сёння я тут быў і ў кожным разе такую незвычайную рэч заўважыў бы.

— Відаць, ён быў тут, калі нас не было, і падумаў, што нікога няма. Можа, ён і недалёка паспеў адысціся.

— Гэй! Людзі! Сюды! — загукалі хлопцы што было сілы.

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА



*Мінская птушкафабрыка імя Н. К. Крупскай у мінулым годзе выпрадукавала 55 мільёнаў штук яек і 750 тон мяса птушкі.*

## ІНФРАГУК—ВОРАГ І СЯБАР

Інфрагукі — гэта гукі вельмі нізкай частаты, настолькі нізкай, што чалавечае вуха іх не ўспрымае. Аднак гэта не азначае, што інфрагукі не ўздзейнічаюць на чалавека.

...Паўстагоддзя назад у адным лонданскім тэатры ставілі п'есу, па ходу дзеяння якой рэжысёр захацеў выклікаць у гледачоў эфект незвычайнасці, таямнічасці. Сярод сяброў тэатра, якія нярэдка прысутнічалі на рэпетыцыях, быў і вядомы фізік Роберт Вуд. Вось ён і прапанаваў уздзейнічаць на гледачоў незвычайна нізкімі гукамі. У тэатр прывезлі вельмі доўгую і шырокую трубу і прыладзілі яе да аргана. Ніхто з прысутных, акрамя Вуда і яшчэ некалькіх асоб, нічога не ведаў пра гэту задуму.

Разлічваючы трубу, Вуд, відаць, у нечым памыліўся — калі зайгралі на аргане, гуку не было зусім. Але падвескі на кандэлябрах у зале дзіўным чынам задрыжэлі, людзі адчулі беспрычынны страх: больш таго, нават на вуліцы ні з таго, ні з сяго пачалася паніка...

Цяпер мы ведаем прычыну гэтай дзіўнай з'явы — труба выпраменьвала інфрагукі. Яны і выклікалі ўсе апісаныя вышэй з'явы. Чаму імфрагук адмоўна ўздзейнічае на псіхіку, выклікае стомленасць, неўрозы, страх — яшчэ не высветлена, але што гэта факт — устаноўлена дакладна. І горш за ўсё, што на вуліцах гарадоў і ў вытворчых памяшканнях прадпрыемстваў узнікаюць гукі розных частот, і ў тым ліку і інфрагукі. Небяспека ад іх тым большая, што іх не чуваць, але сваю шкодную справу яны робяць. Са звычайным шумам яшчэ таксяк змагаюцца — ён чуваць, а вось інфрагук застаецца паза ўвагай. А ён жа і з'яўляецца тут галоўным ворагам.

Але ёсць галіна, дзе інфрагук можа аказацца нашым сябрам. Гэта прадказанне землетрасенняў. Справа ў тым, што ў адрозненне ад чалавека, жывёлы чуюць інфрагукі. Гэтым, відаць, і тлумачыцца той факт, што яшчэ задоўга да землетрасення жывёлы пачынаюць праяўляць розныя прыкметы непакою. Зусім верагодна, што іх нервуюць нячутныя для чалавека інфрагукі, якія ўтвараюцца ад далёкіх разломаў зямной кары, што звычайна папярэднічаюць землетрасенням.

Калі гэта так, то на аснове слыхавога апарата жывёл, што найлепш прадчуваюць землетрасенні, можна стварыць прыбор, які за некалькі гадзін прадкажа стыхійнае бедства. Стварылі ж савецкія вучоныя апарат, які на аснове інфрагукавага вуха мядузы прадказвае наступленне шторму на моры!

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### БУЛЬБА

Па святах захацелася бульбы. Простай, звычайнай бульбы, без якой цяжка ўявіць сабе наш штодзённы харч. І падумаць толькі, што недзе плацяць за яе больш, як за апельсіны! У нас жа можна яе есці смела, не баючыся, што зруйнуе гэта наш хатні бюджэт (дарэчы, нарушаны даволі сур'ёзна нядаўнімі святкаваннямі).

*Бульба печаная з кменам* — блюда вельмі простае і смачнае. Бульбу трэба абабраць, памыць, парэзаць на чвэрткі ўздоўж і крыху абсушыць у сцірцы. Адным пластом вылажыць яе на добра памазаную тлушчам бляшку, пасыпаць (па смаку) соллю і кменам (кмену найлепш узяць чайную лыжку на 10 бульбін). Бульбу трэба пячы ў гарачай духоўцы мінут 30—40, часта паліваючы яе тлушчам. Калі будзе румяная, падаем яе да мяса з салатам.

Для аматараў падаем рэцэпт на *бульбу печаную з часнаком.* Бульбу, не абіраючы, трэба вышараваць добра шчотачкай, лёгка надрэзаць (накрыж) кожную бульбіну (з плоскага боку), палажыць бульбу на бляшку, уставіць у гарачую духоўку. Часнок (1 зубок на 10 бульбін) абабраць, дробна пасячы і расцерці з соллю. Калі бульба ўжо крыху падпячэцца, спырснуць яе алеем, а на месца, дзе бульба лопнула, налажыць пакрысе расцертага часнаку з соллю. Цяпер бульбу дапячы. Падаем яе да марынаваных селядцоў, або селядцоў з алеем.

*Бульбяная запяканка.* Бульбу мыем, абіраем, нарэзваем тонкімі скрылёчкамі, абварваем 5 мінут у пасоленай вадзе і адцэджваем. Пячаркі (шампіньёны), ачысціць, нарэзаць (на 1,5 кг бульбы бярэм 0,25 кг грыбоў), абабраць і нарэзаць 2 цыбуліны. У плоскую каструлю кладзем паасобнымі пластамі бульбу, пячаркі, цыбулю, пасыпаючы кожны пласт соллю і перцам. Апошнім пластом павінна быць ізноў бульба. Заліваем усё шклянкай смятаны, ставім у гарачую духоўку мінут на 40. Бульбяную запяканку падаем з салатам з гародніны.

*Бульбяныя кракеты* робім наступным спосабам. Варым 1 кг бульбы. Яшчэ цёплую бульбу прапускаем праз мясарубку. Дадаем да бульбы лыжку масла ці маргарына, 2 сырыя яечкі і яшчэ 2 жаўткі, 3—4 лыжкі мукі, крыху мушкатовай галкі, солім. Усё разам трэба добра расцерці. У далонях, пасыпаных мукою, робім невялікія шарыкі, макаем іх у цёртай булцы (молатых сухарах). Кладзем на моцна разагрэты ў каструлі тлушч. Кракеты павінны плаваць у тлушчы, як пончыкі. Смажым кракеты, каб сталі румяныя. Падаваць адразу — найлепш да смажанага мяса.

*Гаспадыня*

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

## ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

### 6. КАРАЛЕЎСКІ МЕЧ — СТАЛІНГРАДУ

Перад пачаткам чарговага пленарнага пасяджэння канферэнцыі 29 лістапада адбылася ўрачыстая цырымонія, якая ператварылася ў дэманстрацыю адзінства саюзнікаў у барацьбе супраць агульнага ворага. Такая дэманстрацыя была якраз дарэчы: Яна крыху разрэдзіла хмары, што сабраліся над канферэнцыяй, і з'явілася напамінаннем аб тым, што перад антыгітлераўскай кааліцыяй стаяць яшчэ вельмі вялікія і складаныя задачы, якія могуць быць вырашаны толькі пры ўмове адзінства і ўзгодненых дзеянняў.

Уручэнне жыхарам Сталінграда ад імя караля Георга VI і англійскага народа спецыяльна выробленага меча было іменна такой дэманстрацыяй. Вялікі бліскучы меч з двухручным эфесам і інкруставанымі ножнамі быў выкаван па выбраным каралём эскізе вопытнымі патомнымі майстрамі зброі Англіі. Ён павінен быў сімвалізаваць даніну павагі героям Сталінграда — горада, дзе быў надламаны хрыбет фашысцкага звера.

Зала запоўнілася задоўга да пачатку цырымоніі. Тут ужо знаходзіліся ўсе члены дэлегацый, а таксама кіраўнікі армій, флоту і авіяцыі дзяржаў — удзельніц антыгітлераўскай кааліцыі, калі з'явілася Вялікая тройка.

Сталін быў у светла-шэрым кіцелі з маршальскімі пагонамі. Чэрчыль на гэты раз таксама з'явіўся ў ваеннай форме. З гэтага дня англійскі прэм'ер заўсёды з'яўляўся ў Тэгеране ў форме, і ўсе лічылі,



